*Тамара Віннікава трапіла ў шпіталь КДБ (стар. 2) Прэзідэнцкім дэкрэтам ўведзена абавязковае дэкларыванне даходаў і маёмасці (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 40.940
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 18 лютага 1997 | № 17 | Кошт свабодны

## Прысуды былі стандартнымі: трое сутак арышту плюс штраф

*Учора з раніцы ў Цэнтральным райсудзе Мінска пачаліся судовыя працэсы над дэманстрантамі, якіх затрымалі ў пятніцу падчас маладзёжнага шэсця «Беларусь — у Еўропу»*

Са спецпрыёмніка-размеркавальніка ў суд было дастаўлена каля 40 чалавек, якім некалькі суддзяў штампавалі стандартныя прысуды *«за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці»*. Практычна ўсе атрымалі аднолькавае пакаранне: па 200 тысяч рублёў штрафу і трое сутак арышту, якія хлопцы ўжо паспелі адседзець.

Выключэннем, бадай, стаў толькі магілёўчанін Алесь Буракоў, якога суд апраўдаў за недастатковасцю доказаў. Суддзя (што вельмі дзіўна для беларускай судовай практыкі нашага часу) не прызнаў сведчанняў міліцыянтаў пераканаўчымі і выпусціў хлопца на свабоду. А 18-гадовы Аляксей Руды атрымаў 80 тысяч рублёў штрафу рашэннем старшыні райсуда Ігара Ждановіча, які не хацеў пускаць у залу паседжанняў журналістаў. Аляксей быў настроены па-баявому і на пытанне карэспандэнта СВАБОДЫ, ці будзе ён надалей удзельнічаць у падобных акцыях, заявіў, што будзе абавязкова, а трохдзённае сядзенне на нарах толькі дадало яму настрою змагацца з рэжымам.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Заява Шэймана пра «баевікоў» атрымала працяг

*Незвычайныя вучэнні былі праведзены ў мінулы чацвер на вайсковай авіябазе ў Засімавічах Пружанскага раёна*

13 лютага лётчыкаў паднялі па трывозе, і яны адпрацоўвалі баявую задачу *«па знішчэнні бандфарміраванняў на тэрыторыі Брэсцкай вобласці»*. Верталёты начыняліся боекамплектам, але ў неба іх не падымалі (у мэтах эканоміі паліва).

Вось такі працяг атрымала вядомая заява Віктара Шэймана пра тое, нібыта *«ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці быў выкрыты лагер па падрыхтоўцы баевікоў»*.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Чакайце, людзі, восені

**У Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці нарэшце прыдумалі, як ліквідаваць хранічную запазычанасць па зарплаце, якая ўтварылася на канец 1996 года.**

Высвятляецца, што робіцца гэта вельмі проста, нават калі ў калгасных касах няма ні рубля. Раённае кіраўніцтва спусціла калгасам і саўгасам раёна цыркуляр: *«Выдаць заробак збожжам будучага ўраджаю з разлікам 3 тыс. рублёў за 1 кг»*. Людзям застаецца толькі распісацца ў ведамасцях і чакаць восені. Напрыклад, адміністрацыя саўгаса «Петрыкаўскі» такім чынам разлічыцца са сваімі рабочымі за кастрычнік, лістапад і снежань 1996 года. Пра гэта карэспандэнту СВАБОДЫ паведаміў галоўны бухгалтар гэтай гаспадаркі Аляксей Сіган. Праўда, ён не сказаў, якім менавіта таварам будуць выдаваць заробак за сёлетнія працадні. Мусіць, раённае начальства яшчэ думае.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Таксіст быў забіты двума стрэламі

**У мінулыя выхадныя прыватныя таксі ў Гродне ездзілі з чорнымі стужкамі — у ноч з пятніцы на суботу ў горадзе загінуў таксіст.**

Ён заехаў дамоў да гандляроў-«чаўнакоў», якія збіраліся ехаць па тавар за мяжу і мелі вялікую суму грошай. Раптам з'явілася хеўра з некалькіх чалавек, якія запатрабавалі долары. Таксіст вырашыў заступіцца за сваіх кліентаў, але адразу атрымаў дзве кулі ў грудзі. Забойцы зніклі з месца злачынства.

**А.А.**



# Свята закаханых завяршылася дубінкамі, газам, наручнікамі

*Каля 40 дэманстрантаў было арыштавана*

**У дзень святога Валянціна, 14 лютага, у Мінску адбылося маладзёжае шэсце «Беларусь — у Еўропу!»**

Удзельнікі акцыі наведалі амбасады Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі, ФРГ і ЗША і ўручылі паслам гэтых краінаў петыцыі адпаведнага зместу. У масавым гулянні з нагоды свята закаханых прыняло ўдзел больш за тры тысячы чалавек. Стражы парадку адзначылі дзень святога Валянціна масавымі затрыманнямі ўдзельнікаў шэсця, слезацечным газам, дубінкамі і наручнікамі. Паводле дадзеных прэс-службы МУС затрымана 36 чалавек. У суботу, 15 лютага, у гарадскім УУС сказалі, што затрымана 39 удзельнікаў шэсця. Па неафіцыйных дадзеных каля 15 чалавек змясцілі ў следчы ізалятар па вул.Акрэсціна. Адзіная «віна» гэтых маладых людзей у тым, што яны любяць Беларусь і нязгодныя з антыеўрапейскай, антыдэмакратычнай палітыкай лукашэнкаўскага рэжыму.

Акцыя «Беларусь у Еўропу» пачалася а 17-й гадзіне на плошчы Свабоды. Яе ўдзельнікі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з воклічамі *«Жыве Беларусь!»*, *«Незалежнасць!»*, *«Беларусь — у Еўропу!»*, *«Далоў Луку!»* рушылі да амбасады Францыі. Шэсце выглядала святочным і эмацыянальным. Моладзь скарыстала славянскі вопыт Сербіі і Балгарыі і стварыла непаўторнае «музычнае» афармленне з дапамогай свісту.

*На здымку: міліцыя палюе на ўдзельнікаў акцыі. Людзей выхоплівалі, білі і запіхвалі ў спецыяльныя машыны. Пры гэтым ужываўся слезацечны газ, электрашокеры і дубінкі.*

Дзверы французскай амбасады гасцінна адчыніліся, і прадстаўнікі моладзі прайшлі ў памяшканне, дзе перадалі амбасадару петыцыю такога зместу: ***«Мы, прадстаўнікі беларускай моладзі, заклапочаныя недэмакратычнай, нееўрапейскай палітыкай нашай улады, уціскам правоў чалавека, арыштам актывістаў маладзёжных арганізацый, ігнараваннем грамадскіх свабодаў, дыскрымінацыяй карэннага насельніцтва ў дагоду інтарэсам Масквы, сёння, 14 лютага, калі ў свеце адзначаецца дзень святога Валянціна, звяртаемся да вас, да ўладаў вашай краіны, да іншых амбасадараў, якія прадстаўляюць у Беларусі буйнейшыя апірышчы заходняй дэмакратыі і культуры, з просьбай зрабіць усе магчымыя намаганні дзеля як мага больш хуткага ўваходжання Беларусі ў задзіночанне Еўрапейскай цывілізацыі, дзеля яднання нашай супольнай культуры і палітычнай прасторы. Заклікаем вас і ўрад вашай краіны супрацьстаяць памкненням пракамуністычных і шавіністычных уладаў Масквы (вядома, што Беларусь разглядаецца рэваншыстамі як першая ахвяра), падтрымаць маладзёжны і студэнцкі рух у абарону дэмакратыі, правоў чалавека, традыцыйных еўрапейскіх каштоўнасцяў. Мы любім Еўропу! Мы хочам быць разам з Еўропай! Мы супраць любых спробаў рэанімацыі савецкай імперыі. Няхай жыве вольная Еўропа! Жыве Беларусь!»***

Пакуль петыцыю ўручалі паслу Францыі, каля амбасады ўдзельнікі акцыі скандзіравалі на французскай мове *«Няхай жыве Францыя!»*.

Ад французскай амбасады моладзь дружна накіравалася да амбасадаў Вялікабрытаніі і Італіі, куды перадала тую ж петыцыю. Амбасадар Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс ветліва пазірала на святочнае шэсце, стоячы каля ўваходу ў памяшканне. Выканаўшы сваю місію, юнакі і дзяўчаты, не парушаючы парадку, накіраваліся па тратуары да амбасады ФРГ. Цікава, што праход да прэзідэнцкай рэзідэнцыі быў блакіраваны васьмю шэрагамі міліцыі і АМОНа. Прэзідэнцкі палац, відаць, моцна напалохаўся бурлівага, вясёлага маладзёжнага шэсця.

Каля будынка цырку міліцыя і людзі ў скураных куртках выхапілі і сілком пацягнулі ў машыны некаторых удзельнікаў акцыі. Сярод іх былі Мікола Важнік і Міхаіл Галаса. Пацягнулі ў машыну і жанчыну з 10-гадовай дзяўчынкай. Але, відаць, крык і плач дзіцяці вымусілі іх адпусціць жанчыну.

Тым часам калона наблізілася да варотаў амбасады ФРГ, дзе мітусіўся палкоўнік Цэсавец, даючы распараджэнні міліцэйскаму кардону. Моладзь паводзіла сябе цывілізавана і дысцыплінавана. Дзіўна, што супрацоўнікі нямецкай амбасады не адчынілі жалезныя вароты і прынялі петыцыю на вуліцы. Пасля калона рушыла да амбасады ЗША. Праходзячы каля будынка прэзідэнцкага тэлебачання, удзельнікі скандзіравалі: *«Ганьба!»* Рэдакцыя «Панарамы», якая сядзела ў гэтым будынку, была ачэпленая АМОНам і міліцыяй з дубінкамі.

У гэты светлы дзень святога Валянціна давялося прайсці яшчэ і міма амбасады Расіі (яе немагчыма было абмінуць) з тым жа воклічам *«Ганьба!»* Каля амерыканскай амбасады моладзь скандзіравала па-англійску *«Мы любім ЗША!»*, а таксама *«Лукаша — за краты, Беларусь — у NATO!»*. Супрацоўнікі адчынілі вароты, але не прапусцілі ў памяшканне амбасады.

*(Працяг на стар. 2)*

# Ауфвидерзеен, майне кляйне

**Интересное уведомление, отправленное по факсу из Берлина, случайно попало в поле зрения журналиста.**

Один немецкий адвокат решил закрыть представительство своей адвокатской конторы в Минске. Мотивы этого решения он объясняет адресату следующим образом.

*«Глубокоуважаемый г-н V, современные политические условия в Республике Беларусь не допускают успешной адвокатской деятельности, если исходить из понимания профессии демократическими мыслящими адвокатами. По всей вероятности также и западные инвесторы потеряют свой интерес инвестировать в Республике Беларусь.*

*Поэтому я принял решение закрыть представительство моей адвокатской конторы в Минске к 31 декабря 1996 года.*

*Заверяю Вас, что принятые мандаты будут доведены до конца.*

*Контакт со мной Вы можете поддерживать через мою контору в Берлине.*

*С наилучшими пожеланиями для будущего адвокат N».*

**Сабина БРИЛО**

# А все ли у нас в порядке с мозгами?

Такой вопрос все чаще возникает у обывателя при ознакомлении с теми или иными рецептами улучшения жизни, которые готовятся чиновничьей братией. Да и заявления лидеров нации иногда заставляют усомниться в их и нашем психическом здоровье.

Так, в правительстве РБ созрела программа по форсированию инвестиционного процесса, с тем чтобы в течение 5 лет вложить в экономику 50 млрд. долларов. Из них примерно половину должны составить иностранные инвестиции, желательно прямые. Короче, предполагается, что на восстановление нашего изрядно пошатнувшегося хозяйства капиталисты станут выделять ежегодно по 500 долларов на каждого «тутэйшага», включая древних старцев и младенцев.

Можно, конечно, предположить, что бизнесмены станут благотворителями, но чтобы настолько! Нет тому оснований ни в теории, ни, главное, в практике. До сих пор, по крайней мере в Беларуси, капиталисты демонстрировали свойственную им сверхосторожность и инвестировали в нашу экономику за годы суверенитета всего 73 млн. долларов, а в прошлом году — 12,3 млн., что составило 1 доллар и 23 цента «на нос».

Ситуация, когда без цента в кармане рассуждают о прольющихся потоках миллиардов, объяснима и она ненормальна, поскольку создается не вполне нормальными людьми. Тот же самый клерк, допустим, из недавно созданного министерства инвестиций, при практически нулевом уровне иностранных капиталожений, ничтоже сумняшеся, строит прожекты бурного грядущего процветания. Неужели такое безрассудство оправдывается только занимаемым местом и высокой зарплатой?

Еще большим безрассудством отличается позиция обывателя. Сегодня он получает символическую и все уменьшающуюся зарплату или пенсию, но верит вот этим «грамотным людям», утверждающим, что в обозримом будущем будет у белорусов достаток и достойная жизнь. Только вот с какой колокольни можно увидеть это будущее?

Да нам хоть все золото мира отдай, мы и «в обозримом будущем» станем отнимать гуманитарную помощь у африканцев, живущих к югу от Сахары.

Но золота нам, конечно, никто не даст. Поэтому всяк должен будет отрезветь и занятся своим делом. Правительство проведет реформу, деловые люди станут создавать рабочие места, а все остальные — свободно и производительно трудиться. А значит — выживут и достатовят психику.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# Осторожно: могут ограбить

*Президентским декретом в Беларуси вводится обязательное декларирование доходов и имущества физических лиц*

## Основные требования

Согласно декрету, предусматривается обязательное предоставление декларации о доходах и имуществе по требованию контрольных органов: Комитета государственного контроля, государственных налоговых органов, органов внутренних дел, Комитета государственной безопасности и прокуратуры. Также обязаны предоставлять декларацию при своем назначении на должность служащие государственного аппарата, должностные лица государственных предприятий, учреждений и организаций, военнослужащие, сотрудники органов внутренних дел. Интересно, что в декрете говорится не о гражданах РБ, а о физических лицах; значит, под этот декрет могут попасть также иностранные граждане.

Декларировать нужно все доходы в денежной и натуральной форме, полученные в течение календарного года на территории РБ (а для граждан Беларуси — и за ее пределами), и находящееся в собственности физических лиц разнообразное имущество: автомобили, земельные участки, дома, квартиры, гаражи, денежные средства на сумму свыше 500 минимальных зарплат (МЗС), драгоценные металлы, камни и изделия из них, предметы искусства, если стоимость этих вещей превышает 500 МЗП, стройматериалы общей стоимостью на эту же сумму, иное имущество, стоимость единицы которого превышает 500 МЗП, и т.п. Также физические лица при совершении имущественной сделки на сумму более 500 МЗП обязаны предоставлять декларацию об источниках денежных средств, расходуемых на эти цели, в налоговую инспекцию. В ином случае сделка не подлежит регистрации и нотариальному удостоверению и признается недействительной.

## Возможные последствия

Казалось бы, что тут такого для простого человека, не имеющего особого имущества: задекларировал — и всё. Но система наказаний, предусматриваемая декретом, дает возможность государству, т.е. контролирующим органам и чиновникам, преследовать практически любого человека и просто его ограбить. Например, в первый раз за непредоставление декларации (либо указание в ней неполных или недостоверных сведений) предусматривается наложение штрафа в размере от 5 до 50 МЗП. Но если же после наложения штрафа произошли те же нарушения, то имущество физических лиц, подлежащее декларированию, может быть изъято по решению суда как *«неосновательно приобретенное»*. Учитывая то, что в декрете не установлено, сколько раз можно требовать от человека декларацию, правоохранительные органы могут просто испортить человеку жизнь, требуя едва ли не каждый день новую декларацию. К тому же имущество требуется декларировать в ценах на день подачи декларации, и следовательно, не ошибиться при нашей инфляции будет весьма сложно. Стоит иметь в виду и тот факт, что цены на некоторое имущество могут быть разными в различных магазинах, на рынках и т.п., и попробуй докажи суду, что прав «простой человек», а не какой-нибудь чиновник из контрольных органов.

**Алесь САДОВСКИЙ**

*КОНКУРС*

# АДУКАЦЫЯ ЗА МЯЖОЙ

Беларускі камітэт Коледжаў міжнароднай супольнасці *(United World Colleges)* аб'яўляе конкурс на паступленне ў Адрыятычны міжнародны коледж у Італіі, у Міжнародны Паўночны коледж Чырвонага Крыжа ў Нарвегіі, у Міжнародны коледж Махіндра (Індыя), у Міжнародны коледж Уотэрфорд Камхлаба (Паўднёвая Афрыка) і ў Міжнародны коледж Сімона Балівара (Венесуэла).

Галоўная мэта Коледжаў міжнароднай супольнасці — усталяванне ідэалаў міру, талерантнасці і супрацоўніцтва паміж моладдзю розных краін праз адукацыю. У кожным з коледжаў навучаецца па 200 чалавек з 150 краін свету. Мова навучання англійская. Кожны студэнт мусіць быць паўнавартасным прадстаўніком сваёй краіны, добра ведаць яе гісторыю, мову, культуру, быць у стане расказаць пра яе сваім сябрам з іншых краін.

Тэрмін навучання ў коледжах — 2 гады. Студэнты маюць права выбіраць накірунак навучання.

Выпускнікі атрымліваюць дыплом міжнароднага бакалаўра, які прызнаны ў больш за 150 краінах свету, у тым ліку ў ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Францыі, і дае права працягваць адукацыю ў вышэйшых установах гэтых краін.

Абітурыенты мусяць мець поўных 16 год на 1 верасня 1997 г.

Міжнародны коледж Сімона Балівара (Венесуэла) дае вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю (кіраванне сельскай гаспадаркай, фермерскі менеджмент), таму ўзрост абітурыентаў у гэты коледж — 18—22 гады.

Пачатак навучальнага года ў коледжах — 1 верасня 1997 г., у Міжнародным коледжы Уотэрфорд Камхлаба (Паўднёвая Афрыка) — 1 студзеня 1998 г.

Конкурс адбываецца ў два туры. Першы тур — завочны. Абітурыенты павінны да 24 сакавіка 1997 г. даслаць у адборачную камісію па адрасе г.Мінск 220050, вул.Кірава, 21, пакой № 6 (тэл. 26-10-70) наступныя дакументы:

1. *Заяву на ўдзел у конкурсе з указаннем свайго адраса, а таксама адраса, тэлефон і нумара сваёй школы;*

2. *Эсэ на беларускай і англійскай мовах на тэму «Якой я бачу Беларусь у III тысячагоддзі», аб'ёмам 6—7 старонак вучнёўскага сшытка.*

Тыя, хто пройдзе завочны курс, будуць запрошаныя на сумоўе, якое адбудзецца 18 красавіка 1997 г. і на якім будзе выяўляцца ўзровень ведаў абітурыентаў па беларускай гісторыі, мове і літаратуры, англійскай мове, сусветнай гісторыі і культуры.

Да сумоўя абітурыенты мусяць прадставіць у адборачную камісію:

1. *Копію пасведчання аб нараджэнні;*

2. *Даведку аб стане здароўя;*

3. *Копію ведамасці аб паспяховасці за 1996/97 навучальны год.*

Камісіі могуць быць прадстаўлены граматы, дыпломы і іншая інфармацыя, якая сведчыць пра творчую і спартыўную дзейнасць абітурыента.

Камітэт шукае спонсараў для аплаты 50% коштаў за навучанне ў коледжах Паўднёвай Афрыкі і Венесуэлы, а таксама авіябілета для студэнта індыйскага коледжа.

***Беларускі камітэт Коледжаў міжнароднай супольнасці***

# Школа для нацменшасці

У кожнага свае праблемы. Кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі, напрыклад, дамагаецца сустрэчы з А.Лукашэнкам. У прэзідэнцкай адміністрацыі паабяцалі наладзіць аўдыенцыю, спачатку з прэзідэнтам, потым усяго толькі з яго памочнікам С.Посахавым. Але пасля таго, як старшыня СПБ Т.Гавін адмовіўся ад паслуг Посахава і крытычна выказаўся пра «ўсенародны сход» і рэферэндум, у адміністрацыі адразу страцілі да яго цікавасць. Цяпер сп.Гавін вымушаны слаць Аляксандру Рыгоравічу лісты з просьбамі. Першая просьба такая — пабудаваць дзяржаўным коштам польскамоўныя школы: у Гродне на 600 месцаў, у Брэсце на 330 і ў Навагрудку на 200 вучняў.

На падобныя просьбы, канечне, начальства адказваць не любіць. Проста абяцаць таксама бясконца не будзеш. Вось і вады ў рот набрала. Маўляў, трэба вам — самі і будуйце. Просьба сапраўды выглядае не вельмі рэальна, бо ў вобласці стаяць недабудаванымі 24 школьныя будынкі. На іх заканчэнне сёлета выдзяляецца 14,5 млрд. рублёў, хаця адна толькі гродзенская школа вымагае 21 мільярда.

Польскую мову ў Гродзенскай вобласці вывучаюць амаль 9 тысяч дзяцей, а ўсе дысцыпліны на польскай мове — 581 вучань у школе № 36 г.Гродна. Аднак начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама А.Саўчык днямі звярнуўся да журналістаў са словамі: *«Не пішыце, што гэта — польская школа. У нас няма ніякай польскай школы, а толькі школа з польскай мовай навучання»*. Маўляў, менавіта так запісана ў дамове паміж Саюзам палякаў і гарадскімі ўладамі, якія фінансуюць яе, і яна працуе ў рэжыме астатніх нашых школ.

Не вельмі пераканаўча, аднак, прагучала пры гэтым спасылка на існаванне ў горадзе, нібыта, падобных школ, але з французскай і англійскай мовамі навучання. Хаця вядома, што ў гэтых школах толькі паглыблена вывучаецца замежная мова, адрозна ад 36-ай, дзе ўсё — папольску. Англія і Францыя грошы на іх будаўніцтва не выдзялялі. А вось польскі ўрад раскашэліўся на гродзенскую школу, таму яна па сваёй сутнасці і з'яўляецца польскай. Гэта якраз не падабаецца сп.Саўчыку. Чаму? Крыўдна яму за беластоцкіх беларусаў. Абодва тамтэйшыя, афіцыйна называныя беларускімі, ліцэі (у Бельску і Гайнаўцы), дзе яму неадночы даводзілася бываць, ён называе не інакш, як *«гэтак званымі беларускімі»*. Паколькі толькі шыльды ў іх беларускія, бо па-беларуску выкладаюцца толькі мова з літаратурай і невялічкі курс беларускай культуры.

Сп.Саўчыка таксама непакоіць, што ў Беластоку, дзе па неафіцыйных (бо афіцыйных не існуе) дадзеных жыве 120 тысяч беларусаў, няма ніводнага беларускага класа. Толькі дзіцячы садок адчынены, якому наш бок, дарэчы, дапамог кніжкамі. Добрае ведаме пытання А.Саўчык выяўляе дзякуючы свайму ўдзелу (у якасці намесніка старшыні) у супольнай камісіі міністэрстваў адукацыі Беларусі і Польшчы, якая раз на паўгода збіраецца ў Беластоку або ў Гродне.

На жаль, пакуль не створана камісія, якая б дбала пра захаванне беларускай школы менавіта ў Беларусі. Вось што робіцца ў «гаспадарцы» самога сп.Саўчыка. У Гродне сярод першых класаў 167(!) рускіх і толькі 22 беларускіх, у Смаргоні на 14 рускіх класаў прыпадае ўсяго 2 беларускіх. Лепшае становішча пакуль у Лідзе, дзе на 40 беларускіх — 34 рускіх, і ў Навагрудку, дзе 19 беларускіх першых класаў і 6 рускіх. Але відавочна, што ў верасні справа зноў пагоршыцца, бо органы адукацыі нічога не робяць хаця б для замацавання гэтых пазіцый. Лягчэй выконваць усе распараджэнні зверху, каб, не дай Божа, не быць абвінавачаным у нацыяналізме. Для Беларусі гэта, на жаль, звыклая сітуацыя.

Можна ліць кракадзілавыя слёзы па беларускім навучанні ў Польшчы, ад якой мы адгароджаны калючым дротам, і паслухмяна вынішчаць гэтую справу тут, дзе ад цябе залежыць нямала. Спачатку сп.Саўчык някепска займаўся беларусізацыяй адукацыі, якая цяпер знішчаецца ягонымі ж рукамі. У Смаргоні, напрыклад, можна сказаць, што беларуская школа ўжо не існуе. Так што пара рапартаваць прэзідэнту, можа, чым узнагародзіць за «службеное рвение»?

Мне цяжка зразумець, што гэта — крывадушша ці проста наіўнасць часткі чыноўнікаў, якім абсалютна шчыра баліць душа за беларускую школу на Беласточчыне і не турбуе яе лёс дома. Можа, яны спадзяюцца, што польскія беларусы яшчэ раз захаваюць для нас за мяжой нашу мову? Ды не, беларуская школа будзе ў Беласточчыне толькі тады, калі яна будзе тут. А яе, як мы бачым, павінна знішчыць новая хваля русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ўладай Лукашэнкі. Што да польскай школы на Беларусі, дык яна будзе існаваць і ўмацоўвацца — як бы да гэтага ні ставіліся нашы чыноўнікі. Моц беларускіх палякаў у тым, што школы ў Польшчы не пераводзяцца з польскай на рускую мову. Сёлета ў Ваўкавыску распачнецца будаўніцтва новай школы, якую будзе фінансаваць польскі ўрад.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

СВАБОДА
18 лютага 1997 г., № 17

## Юныя гангстэры

**У Ваўкавыску на суму два мільёны рублёў быў абрабаваны камерцыйны шапік.**

Міліцыя была вельмі здзіўленая, калі адшукала злодзеяў: імі аказаліся два чацвяракласнікі.

**М.М.**

## У Лідзе затрымалі Шарэцкага

**У Лідзе міліцыя ў адзін дзень узбудзіла тры крымінальныя справы па фактах продажу наркотыкаў.**

Па адной з іх праходзіць жыхар г.Ліды В.Шарэцкі, які спрабаваў збыць наркаманам амаль кілаграм макавай саломкі.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Новыя ахвяры прайдзісветаў

**Даверлівы народ жыве ў Бабруйску.**

Адна 30-гадовая беспрацоўная, выдаючы сябе за інспектара энерганагляду, наведвалася да людзей (пераважна пенсіянераў) і брала грошы за электрычнасць. Кліенты былі задаволеныя тым, што можна разлічыцца за святло, не выходзячы за парог хаты. Вынаходлівая махлярка, пакуль яе не затрымала міліцыя, паспела за некалькі дзён назбіраць каля пяці мільёнаў рублёў.

**Іван ЗАСАДА**

КАДРЫ

СПОРТ

# Шахматны тайфун Гары

**ШАХМАТЫ: ПАСЛЯ ЛАС-ПАЛЬМАСА — ЛІНАРЭС**

У 8-м туры супертурніру ў Лінарэсе (Іспанія) упершыню прайграў чэмпіён свету Гары Каспараў (Расія), які не ўклаўся ў час у партыі з Васілём Іванчуком (Украіна). Гэта падахвоціла Гары, і два наступныя паядынкі — з Юдыт Полгар (Венгрыя) і Аляксеем Шыравым (Іспанія) — ён выйграў і дагнаў лідэра — 21-гадовага Уладзіміра Крамніка (Расія). У апошнім туры Каспараў і Крамнік сустрэліся і ў вочнай спрэчцы. Гары зноў даказаў, што пакуль яму няма роўных у свеце.

Разыграўся на фінішы балгарын Весялін Топалаў, які атрымаў чатыры перамогі запар, а ў апошнім туры падзяліў ачко і трэцяе месца з англічанінам Майклам Адамсам.

Наш зямляк Барыс Гельфанд у восьмым туры прайграў другі раз запар, на гэты раз Адамсу. Потым сталіся нічыйныя партыі з Іванчуком, Полгар і Шыравым.

У верхняй частцы выніковай табліцы шахматысты выстраіліся ў такім парадку: *1. Каспараў — 8,5 ачка; 2. Крамнік — 7,5; 3 і 4. Топалаў і Адамс — па 6,5; 5. Полгар — 6; 6. Ананд (Індыя) — 5.5; 7. Гельфанд — 5.*

**ГОРНЫЯ ЛЫЖЫ: СКАНДЫНАВЫ НАПЕРАДЗЕ АЛІМПІЙЦАЎ**

У Сестрыеры (Італія) скончыўся чэмпіянат свету па адным з самых відовішчных відаў спорту — горналыжнаму. У мужчын на галаву вышэй другіх аказаліся нарвежцы. Атле Скордаль у другі раз стаў чэмпіянам свету ў слаламе — у супергіганце, Кьетыль-Андрэ Омадт выйграў альпійскую камбінацыю (слалам + спуск), Том Стыансэн перамог у спецыяльным слаламе. Срэбныя ўзнагароды ў трох відах праграмы заваяваў уладальнік Кубка свету-96 Ласэ К'юс.

У слаламе-гіганце пацвердзіў сваё лідэрства Міхаэль фон Грунiген (Швейцарыя), а самая высокая хуткасць у спуску была ў яго суайчынніка Бруна Кэрнена.

У той жа час лідэры Кубка свету-97 француз Люк Альфан і аўстрыец Томас Сікора засталіся без узнагарод, а знакаміты італьянскі слаламіст Альберта Томба задаволіўся бронзай. Праўда, Альберта быў сур'ёзна траўміраваны і на працягу сезона выступаў вельмі рэдка, а слалам наогул праходзіў з высокай тэмпературай.

Яго суайчынніцы Дэбора Кампаньёні і Ізольда Костнер выйгралі тры залатыя медалі. Чэмпіёнка свету і двух алімпіяд Кампаньёні перамагла ў слаламе і слаламе-гіганце, Костнер — у супергіганце. У скарасным спуску поспеху дасягнула вопытная амерыканка Хілары Лінд, а ў камбінацыі — Рэнатэ Гётчль з Аўстрыі. Лідэры сезону шведка Пернiла Выберг і немка Каця Зайцэнгер медалі заваявалі, але засталіся ў цені італьянак.

**КАНЬКІ: СПРОБА АЛІМПІЙСКАГА ЛЁДУ**

У сталіцы зімовай Алімпіяды-98 Нагана (Японія) на крытым алімпійскім лёдзе прайшоў чэмпіянат свету, на якім канькабежцы вызначалі мацнейшых у класічным мнагаборстве. Шосты раз ушанаваная лаўравым вянком чэмпіёнкі свету немка Гундэ Німан, якая ўстанавіла сусветны рэкорд па суме чатырох дыстанцый (500, 1.500, 3.000 і 5.000 м), — 165,709 ачка. На другім месцы другая немка — Клаўдзія Пехштайн, на трэцім — чэмпіёнка Еўропы Тоні дэ Ёнк (Галандыя). У мінулым годзе Німан, стомленая перамогамі, аб'явіла, што пакідае спорт. Але, відаць, яшчэ не ўвесь порах выгарэў, не ўсе амбіцыі задаволеныя — і Гундэ працягвае перамагаць.

У мужчын чэмпіён Еўропы Ідс Постма (Галандыя) апярэдзіў японца Кэндзі Шырахату і немца Франка Дзітрыха. Беларус Віталь Навічэнка заняў па суме трох дыстанцый 29 месца з 36. Да заключнага бегу на 10 тыс. метраў дапускаліся толькі 12 лепшых.

**ФІГУРНАЕ КАТАННЕ: ЧЭМПІЁНКІ ЎСЁ МАЛАДЗЕЙШЫЯ**

Тытул лепшай фігурысткі ЗША ўпершыню заваявала 14-гадовая Таня Ліпінскі. Яна пакінула другой 16-гадовую чэмпіёнку свету Мішэль Кван. Больш юных пераможцаў у амерыканскім фігурным катанні яшчэ не было.

**ХАКЕЙ: АЎСТРЫЙЦЫ ПАСПЕЛІ**

Апошняй ў алімпійскі экспрэс ускочыла зборная Аўстрыі. Заняўшы ў адборачным турніры ў Інсбруку трэцяе месца (за камандамі Беларусі і Казахстана), аўстрыйцы змагаліся за пуцёўку ў Нагана ў дадатковым матчы са Швейцарыяй і перамаглі — 2:0.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА: РЭКОРДЫ Л'ГЕРУША**

Мараканскі бегун Хічам Л'Геруш у алімпійскім фінале на дыстанцыі 1.500 м, праследуючы лідэра Нурыдзіна Марсэлі з Алжыра, зачапіўся за яго нагу, упаў і, хаця працягваў бег, на фінішы быў далёка ад узнагарод. Цяпер 22-гадовы мараканец кампенсуе той атланцкі правал крушэннем сусветных рэкордаў. Спачатку ў Штутгарце (Германія) ён устанавіў вышэйшае дасягненне для залаў на 1.500 м — 3.31,17, што фактычна на 3 секунды лепш за папярэдняе дасягненне Марсэлі. Затым у Генце (Бельгія) ён палепшыў адзін са старэйшых зальных рэкордаў у бегу на 1 мілю, які пратрымаўся 14 гадоў, — 3.48,45.

Вышэй за ўсіх у зімовым сезоне скочыў з шастом у Льевэне (Францыя) паўднёваафрыканец Океpт Брытс — на 5 м 95 см. Масквічка Ірына Прывалава паказала самыя хуткія секунды ў бегу на 60 м — 7,01.

Наталля Сафроннікава з Гродна на спаборніцтвах у Тамперэ (Фінляндыя) пакарыла зімовы рэкорд краіны на стометроўцы — 11,57.

**ВАЛЕЙБОЛ: ДРУГАЯ ПЕРАМОГА «СПАДАРОЖНІКА»**

У шостым сваім матчы групавога турніру Кубка ўладальнікаў кубкаў віцебскі «Спадарожнік» пасля чатырох паражэнняў запар выйграў у ізраільскага «Макабі» — 3:1 (15:10, 8:15, 15:12, 15:12).

**ТЭНІС: НАШЫЯ Ў ФІНАЛЕ**

Беларускія юнакі да 16 год занялі другое месца ў занальным турніры каманднага чэмпіянату Еўропы, які праходзіў у Мінскім палацы тэніса. Акрамя нашых хлопцаў у васьмёрку мацнейшых выйшлі і пераможцы зоны — славакі.

**Семён ПЛОЦ**

ПАРАДЫ

# Каханне і рэўнасць

Прынята лічыць, што рэўнасць і каханне неад'емна звязаныя паміж сабою, так што быццам бы кахання без рэўнасці ўвогуле не бывае. Людзям здаецца, што менавіта рэўнасць — самая яўная прыкмета глыбокага і моцнага кахання.

Аднак вопыт паказвае, што чалавек можа адчуваць рэўнасць і не кахаючы, а таксама кахаць без рэўнасці. Напрыклад, калі дзяўчына мае шмат кавалераў, нікому з іх не аддаючы перавагі, яна можа раптам адчуць сапраўдныя пакуты рэўнасці, калі адзін з іх праявіць цікавасць да яе сяброўкі. З другога боку, шмат хто з мужоў не толькі не раўнуе, калі бачыць, што ягоная жонка падабаецца іншым мужчынам, але нават ганарыцца гэтым. Псіхалагічныя асновы рэўнасці зусім не звязаныя з праблемай вернасці, — так лічаць спецыялісты. Раўнівы чалавек на самой справе мае зусім іншыя памкненні.

Вельмі часта пакуты рэўнасці ў чалавека выклікае ягоная няўпэўненасць ва ўласных здольнасцях і талентах. Гэтае адчуванне параджае боязь: «А раптам я не варты сапраўднага кахання?». Такім людзям пастаянна патрэбныя знакі захаплення, каб пацвердзіць іхнюю паўнавартаснасць. Калі муж, або жонка, ці нават проста сяброўка займаецца нейкімі іншымі справамі, што таксама патрабуюць ад іх увагі і часу, — гэта можа быць успрынята чалавекам з заніжанай самаацэнкай як небяспека, а часам як катастрофа. Канешне, для яго такая сітуацыя — непрыемная, гэта і спараджае звадкі, скандалы, пагаршэнне ў адносінах. Адным словам, нічога добрага.

Прадбачу, што раўнівы чалавек наўрад ці пагодзіцца з маімі псіхалагічнымі тлумачэннямі, і ад іх яму не будзе карысці. Бо той, хто ахоплены эмоцыямі, не здольны цвяроза разважаць. Хутчэй мяне пачуюць тыя, каму даводзіцца жыць побач з раўніўцамі і трываць іхнія папрокі, крыўды ці нават нешта горшае. Прыгледзьцеся — і вы, магчыма, зразумееце псіхалагічную першааснову эмоцый блізкага вам чалавека. Канешне, непрыемна, калі за вамі сочаць бы за злачынцай ці правяраюць вашыя кішэні. Раўнівы чалавек, як ні дзіўна, здольны вельмі балюча параніць прадмет свайго «адданага кахання», і рэўнасць часта ў рэшце рэшт кладзе канец пяшчотным пачуццям. Таму галоўная парада таму, каго раўнуюць: не варта крыўдаваць — лепш пастарайцеся зразумець, што блізкі вам чалавек, адчуваючы ўколы рэўнасці, на самой справе сам пакутуе горш за ўсіх. Прааналізуйце ягоныя паводзіны — і вы хутчэй за ўсё знойдзеце рэальную псіхалагічную прычыну эмоцый. Аднак не трэба спрабаваць «адкрыць яму вочы» на ягоныя ж слабасці. Лепш проста пастарайцеся не пагаршаць пакуты і далікатна дапамагчы.

Усё, чаго так пакутліва дамагаюцца многія раўнівыя людзі, — гэта трошкі больш увагі і цеплыні. Калі жонка баіцца, што гады забіраюць яе жаночую прывабнасць — мужу варта сказаць ёй зноў пяшчотныя словы, што гаварыў у маладосці. А калі муж пакутліва перажывае, што не можа зарабляць шмат грошай, «як сапраўдны мужчына», — няхай жонка дасць яму адчуць, што нягледзячы на цяжкасці лічыць менавіта яго самым сапраўдным мужчынам. Калі пераканаць чалавека ў тым, што ён такі, як ёсць, хай сабе недасканалы, — каханы і жаданы, гэты чалавек наўрад ці будзе пакутаваць ад рэўнасці — а разам з ім стануць больш шчаслівымі тыя, хто побач.

**Ганна СЕНЕШ**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 40.940
Нумар падпісаны ў друк 16.02.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 269